


№ 6. КАСТРЫЧНІК 1937 г.

# Восень.

Пуста ў лузе. Толькі стогі
парыжэўшыя стаяць,
ды шпакі каля дарогі
цэлы дзень, адно, крычаць.

Грэчка зжата. Гола ў полі.
Жыта зьвезена даўно.
Толькі плаваюць на волі
кучы хмар, як валакно.

Дожджык сее без перастанку,
вецер сьвішча так, як зьвер...
Колькі лужын каля ганку!
А гразі, гразі цяпер!..

Ссохлі травы. Усё павяла.
Слоць, плюхота, холад, цьма...
Эх, скарэй-бы закрывала
зямлю чорную зіма!

Якуб Колас.



# 40-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ МАНАШСТВА ЯГО БЛАЖЭНСТВА МІТРАПАЛІТА ДІОНІСІЯ.



27 верасьня мінула 40 гадоў з таго часу, як наш Уладыка Мітрапаліт прыняў манашскае пастрыжэньне. Божае Правідзеньне прызначыла маладому тады манаху хоць і пачэсны, але цяжкі пуць. Сорак гадоў ужо нясе ахвярна Уладыка Мітрапаліт пастырскае служэньне на дабро і славу нашае Праваслаўнае Царквы.

Пажадаем нашаму Першасьвяціцелю яшчэ многіх гадоў карыснай працы на Яго высокім становішчы.

# ПРАПАДОБНАЯ ЕЎФРАСІНЬНЯ, КНЯЗЕЎНА ПОЛАЦКАЯ.

Прападобная Еўфрасіньня, да манашаства — Прадслава, радзілася ў Полацку ў 1102 годзе. Яна была дачкой Полацкага князя Юрыя-Сьвятаслава і ўнучкай слаўнага князя Ўсяслава Чарадзея († 1101 г.). З малых лет Прадслава выдзначавалася сваім розумам, нязвычайнаю любоўю да навукі і руплівасьцю да храму Божага. Калі дзеўчынцы было 12 гадоў і бацькі зьбіраліся ўжо заручыць яе з кім колечы з акалічных князёў, Прадслава пакінула родную сям'ю і ўцякла ў манастыр сваей цёткі. Там Прадслава—на вялікую роспач бацькоў—прыняла манашаскі пострыг, з імем „Офросіньні“.

У манастыры маладая манашка задзіўляла ўсіх сваёю набожнасьцю, нясупыннымі малітвамі, строгім пастом і ахвярным служэньнем усім бедным і няшчасным. Час ад часу Еўфрасіньня, з багаслаўленьня япіскапа Ільлі, замыкалася ў т. зв. „галубцэ“ або кельлі пры саборы Сьв. Софіі ў Полацку, і там «писала книги своими руками».

Кніга ў тыя часы была рэдкаю зьяваю ў грамадзянстве. Тады яшчэ ня ўмелі друкаваць кнігаў машынным спосабам, як друкуюць цяпер. Іх можна было пашыраць толькі перапісваючы ад рукі. У той час асьвета насіла духоўны характар і таму кнігі ўжываліся пераважна „сьвятыя“, г. ё. кнігі Сьвяшчэннага Пісаньня, літургічныя або царкоўныя—для багаслужэньня і для школы, жыцьцяпісы сьвятых, зборнікі духоўных вершаў і г. д. Перапісваньне сьвятых кнігаў вымагала вялікай цярплівасьці і стараннасьці, бо гэтыя кнігі пісаліся **не скарапісьсю,** як мы цяпер пішам, **выводзіліся ад рукі буква за буквою,** пры чым пачаткавыя буквы і загалоўкі маляваліся чырвонаю фарбаю і аздабляліся рознымі фігурамі і малюнкамі. Да слова сказаць: тады ня ўжывалі нашых пёраў і сучаснае паперы, а пісалі трысьцінкамі на пэргаміне з авечае або іншае скуры,—ўсё гэта прывозілася з Візантыі ці Баўгарыі. З Баўгарыі-ж прывозіліся і славянскія арыгіналы кніг, якія перапісваліся.

Ведаючы, якое значэньне мае асьвета ў жыцьці грамадзкім і хочучы стварыць пэўнае асяродзьдзе для пашырэньня асьветы, прападобная Еўфрасіньня неўзабаве засноўвае недалёка ад Полацку спачатку жаночы, а пасьля і мужчынскі манастыры, з храмамі пры іх. У гэтых манастырох, пры дапамозе сваей роднай сястры Горыславы — Еўдакіі і дваюроднай Зьвеніславы—Еўпраксіі і іншых кніжных людзей і спагадчыкаў асьветы, прап. Еўфрасіньня арганізуе навучаньне дзяцей

і сталае, на шырокую руку, перапісваньне сьвятых і інш. кнігаў. Перапісаныя кнігі хутка пашыраліся па ўсёй Полаччыне і інш. гарадох, як-то: Віцебск, Пінск, Тураў, Друцк, Клецк, Орша, Сьвіслач, Лукомль і др. Дзякуючы працы манастыроў, папаўняліся бібліятэкі і шмат кніжных людзей атрымалі магчымасьць чытаць новыя і новыя кнігі і, такім чынам, асьвета глыбей пашыралася ў нашай Бацькаўшчыне.

Чаму прап. Еўфрасіньня галоўную ўвагу зьвярнула на пашырэньне кніжнае і царкоўнае асьветы?

У гісторыі Полаччыны XI і XII стагодзьдзі былі парою, калі—ў цяжкім крывавым змаганьні за палітычныя ўплывы—з боку князёў рабіліся вялікія высілкі, каб забясьпечыць шырокае нацыянальнае і культурнае жыцьцё і разбудаваць незалежную ад суседзяў дзяржаву. Галоўным шляхам да гэтага была асьвета. Ось чаму калі ў сярэдзіне XII стагодзьдзя спыніліся на якіх гадоў 50 (1131-1180) дамовыя войны і спрэчкі і край, пад уладай унука і праўнука „князя-чарадзея“, пачаў аджываць, лепшыя і найбольш асьвечаныя людзі Полаччыны з усім запалам прыняліся за пашырэньне асьветы. Сярод гэтых людзей прап. Еўфрасіньня, якая ў тую пару была ў росквіце сваіх духовых сілаў, павінна была заняць і ўзапраўды заняла першае мейсца - як па сваей высокай інтэлігэнтнасьці, так і па свайму ўплыву на грамадзкія справы. Найбольш помачы і спагадлівасьці ў сваей працы яна мела з боку духавенства, як гэта бачым на прыкладах тагачасных полацкіх япіскапаў Ільлі, Міны і Дзяніса.

З ліку заснаваных прап. Еўфрасіньняй храмаў да нашых дзён найлепш быў захаваўшыся храм Хрыста Спасіцеля, які яна пабудавала ў сваім манастыры. Але ці гэты храм-памятнік сівое нашае мінуўшчыны - існуе цяпер пры бязбожнай бальшавіцкай уладзе—няведама. Таксама няведама, дзе цяпер знаходзяцца нязвычайна мастацкі і дарагі хрэст, зроблены для прап. Еўфрасіньні ў 1161 годзе полацкім майстрам Лазарам Богушам.

Сваё праведнае і многатруднае жыцьцё прап. Еўфрасіньня скончыла ў 1173 г. ў далёкім Ерусаліме, куды паехала—па „Вялікаму воднаму шляху з варагаў у грэкі“ - для пакланеньня Гробу Господняму. У 1908 годзе сьвятыя мошчы Яе, перавезеныя з Ерусаліму ў Кіева-Пячэрскую Лаўру, адтуль урачыста па таму жа самаму „Вялікаму воднаму шляху“, толькі ў процілежным кірунку,—былі перевезеныя ў Полацак на Бацькаўшчыну.

Памяць прап. Еўфрасіньні сьвяткуецца Прав. Царквою 23 траўня-5 чэрвеня. У гісторыі Праваслаўнае Царквы на Беларусі праца прап. Еўфрасіньні мае вялікае значэньне.

# ГУРАГАН У ПУСТЫНІ.

(Працяг—гл. № 3 „Снапка“).

Вецер надыходзіў. Здалёк паказалася як-бы цёмная хмара, якая расла ў вачох і прыбліжалася да каравану. Зрушыліся навакол найбліжэйшыя хвалі паветра і раптоўныя віхры пачалі круціць пясок. Людзей і жывёлу ўдэрыла як-бы крыло вялізарнае птушкі. У адзін мамэнт вочы і вусны ездакоў засыпала пылам. Туманы пылу засланілі неба, засланілі сонца, і сьвятло пачало цьмянець. Людзі губляліся з вачэй, і нават найбліжэйшыя вярблюды рысаваліся як праз імглу. Ня шум — бо ў пустыні няма дрэваў—але гук віхру глушыў крык правадніка і рык вярблюдаў, якія, адвярнуўшыся ад ветру, павыцягвалі ўніз доўгія шыі так, што іх храпы амаль датыкалі да пяску.

Гураган прыляцеў, рвануў вярблюдамі гэтак моцна, што яны амаль не пападалі на зямлю. Жывёла, павярнуўшыся галавамі ў сярэдзіну, зьбілася ў цесную кучу. Каравану пагражала запраўдная небясьпека. Праваднікі ведалі добра, што калі віхар, які бязупынна рваўся ў сярэдзіне гурагану, схопіць іх у свае закруткі, то параскідае ездакоў і паразганяе вярблюдаў, а калі заломіцца і зваліцца на іх, тады ў адзін міг насыпле над імі вялізарную пяшчаную магілу, у якой будуць чакаць, пакуль чарговы гураган не адвее іх шкілетаў.

Вярблюды парастаўлялі якнайшырэй ногі, каб устаяць перад напорам віхру, але гублялі сілу, і караван, катаваны жвірам, які сёк як бы соткамі бізуноў і пяском, ды калоў шпількамі, пачаў то павальней, то хутчэй круціцца і адступаць пад напорам. Часамі віхор пад яго нагамі вырываў ямы, то ізноў пясок і жвір, адбіваючыся ад бакоў вярблюдоў, у адзін міг насыпалі курганы, дасягаючыя да кален і вышэй. И так праходзіла гадзіна за гадзінай. Небясьпека пагражала што раз ды страшнейшая. Праваднік урэшце зразумеў, што адзіным ратункам будзе сесьці на вярблюды і ляцець з віхрам.

Цемра зрабілася яшчэ гусьцейшая, але адначасна прачнуўся збуджаны віхрам гром і пачаў перакочвацца паміж пустыняй Арабскай і Лібійскай—магутны, грозны, маўляў гнеўны. Здавалася, что з неба каціліся горы і скалы.

Рушылі. Але абкружала іх гэткая цемра, што хоць вярблюды беглі блізка, людзі ня бачылі адзін аднаго і мусілі пераклікацца, каб ня згубіцца ўзаемна. Час ад часу яркія маланкі, сінія або чырвоныя, асьвечвалі пяшчаны прастор. Нарэшце, ўпалі першыя вялікія каплі дажджу, які амаль заўсёды наступае пасьля гурагану, і адначасна ў цемры адгукнуўся голас праваднікa:

— Кгор...

Пераклад з твору Гэнрыха Сенкевіча „W pustyni i w puszczy“.

# СУДЖАНА

(народная казка).

Жыў сабе малы хлапчук. Ён вельмі любіў слухаць казкі ды розныя байкі. Куды ні зьбіраюцца людзі, дык — ведама — пажупяць трохі аб тым, аб сім, а нарэшце знайдзецца паміж іх хто небудзь дый і пачне хлусіць, пачне плясьці, што было і чаго ня было, бо праўду кажуць людзі, што ўсялякая хлусьня як пастарэе, то будзе й праўда. Ось той хлопец падкрадзецца, бывала, ціханька дый слухае. Моʻ ён ужо ведаў усе казкі, але ўсё слухае ды слухае. І пачаў ён жыць на сьвеце, бы ў казцы. Куды ні зірне, то яму здаецца, што жывёла гаворыць між сабою, што кусты і дзераўлякі шэпчуцца от так, бы й людзі. Убачыць ён пчолку, як тая на кветках зьбірае мядок, дык ён і пытаецца ў яе, што яму суджана ці якая яго будзе доля. Бзын! пчолка паляціць, а яму здаецца, што яна сказала — ліха. Сустрэне вавёрку, як яна грызе гарэшкі, падойдзе да яе бліжэй, каб запытацца аб сваёй долі, а тая задзярэ хвост і пабяжыць угору па дзераве ды толькі цмок-цмок-цмок! І здаецца яму, што вавёрка кажа: ліха табе, ліха! Бегае хлапчук ды прыслухоўваецца, аб чым шэпчацца ветрык з яварам, што так гожа ўздымаецца аж ў самае неба, прыслухоўваецца к страшнаму рову цёмнага лесу, як ён у буру матае галавамі, размахвае веткамі бы чалавек рукамі ды камусь пагражае, камусь выстаўляе кулакі, быццам хоча адагнаць ліхую долю ды падужацца з самаю сьмерцяй. Прыслухоўваецца, і яму здаецца, што і лес, і рака, і самае каменьне -ўсё жыве, усё думае, мае сваю гаворку, толькі людзі яе не разумеюць, хіба адзін дзед Грышка, што ўсё ведае ды так гожа бае казкі, што яго слухаў -бы дзень і ноч. Пабег той хлапчук к старому Грышку на пчальнік, каб аба ўсім распытацца ў яго. Але-ж як да яго падступіцца? Грышка хоць і добра бае казкі, ды такі ён грозны, такі разумны, што хлапчук баіцца з ім і загаварыць. Падбег хлапчук, зірнуў праз плот, аж дзед Грышка, ужо ўвесь сівенькі, як суседава кабыла, з доўгаю, доўгаю барадою па самы пояс, сядзіць на калодачцы ды пляце лапці. Ускочыў хлапчук у пчальнік нібыто ненарокам дый пачаў хватацца за сваю гіру (чупрыну), от як-бы там пчала заплуталася.

— А ты, дзеткі, ня бойся, — гэта Божая слуга. Яна ня ўкусіць,—кажа дзед. Хлопчык троху пасьмялеў дый памаленьку бліжэй падыйшоў к дзеду. Ведама, старому хацелася пагаманіць, і ён падазваў да сябе хлапчука, пагладзіў яго па га-

# Раніцай.

Усход гарыць, пылае,
Аж шугае агнём;
Праменьні высувае
Сьвятляныя кругом.

Зялёны бор стаіць
Ахвачаны агнём, —
Спакойна гаманіць
Вітаючыся с днём.

Паўзуць, плывуць праменьні...
Ноч дзесьці ўдаль бяжыць.
Загінулі ўжо цені,
Бач, сонейка глядзіць.

Сьвяці і грэй - жа, сонца,
На ніўкі пазірай.
У родную старонку
Да шчасьця ачуняй.

М. Дварэцкі.

---

лоўцы дый і кажа: пчолка, дзеткі, носіць нам мядок, а Богу вашчок. Гэта сьвятое стварэньне.

— А яна ўмее гаварыць?

— Ўмее, дзеткі, ўмее. Кожнае стварэньне ўмее гаварыць, толькі мы не разумеем, бо так Бог загадаў, каб мы ня зналі, што будзе ўперад.

— А пчолка ведае, што з намі будзе?

— Ведае, мой ты голубе, ведае, што нам суджана і якую долю нам Бог прызначыў.

— А яна мне кажа, што мая доля ліхая.

— Гэта, дзеткі, як Бог дасьць. Што суджана, тое й будзе.

— А я, дзеду, не хачу слухаць, што так суджана, а буду дужацца, буду біцца з ліхою доляю. — І хлапчук аж пачырванеў ды й сашчапіў свае кулачкі.

Паківаў дзед галавою ды патрос барадою. Бачыць, што гэты хлапчук не абы які, а што вельмі жвавы ды цікавы. І доўга стары Грышка размаўляў з тым хлапчуком, вучыў яго, як на сьвеце жыць, як ліха абхадзіць. Толькі адно казаў, каб ён долі не чапаў, бо суджанага ні абойдзеш, ні канём не аб'едзеш: што суджана, тое й будзе.

Але хлопчык усё сваё: — Я — кажа — буду дужацца, буду змагацца з ліхою доляю, і Бог мне паможа дачакаць лепшае долі.

Сказаў і, разьвітаўшыся з дзедам, падняўшы высока галаву, пайшоў да хаты.

З казак і апавяданьняў А. Сержпутоўскага.

## НА СПАТКАНЬНЕ ВОСЕНІ.

Прыляцеў вецярок
у маладзенькі лясок
і зрывае лісточкі з галін.
А ў палёх гаспадар,
дзе быў летам папар,
засявае пасьпешна азім.

Навакол глухата,
у сэрца вее жуда,
сьпеву птушак нідзе ня чуваць.
Толькі бедных дзяцей
грамада йдзе хутчэй
ў школу сьвет для сябе здабываць.

„Першых зернятак" засеў
кожны з іх-бы хацеў
у душы маладой узрасьціць,
бо ў асеньнія дні
ўжо патрапяць яны
рунь ад ветраў ліхіх бараніць.

**Зьмітра Кірэй.**



**„СНЯПОК" — царкоўны і культурна-асьветны журнал для дзяцей, з ілюстрацыямі.**

**на год 1 зл., на ½ года 50 гр. з перасылкай.**

**Цана асобнага нумару 10 гр. з перасылкай.**

Падпіска прыймаецца ў рэдакцыі „Слова":
**Warszawa 4, Paryska 27.**

У справах рэдакцыйнага характару зварочвацца да гр. Сяргея Паўловіча па адрасу: **Вільня, вул. Папоўская, д. 9, кв. 4.** На адказ далучаць значкі паштовыя. На адрас гр. Сяргея Паўловіча прысылаць усе карэспадэнцыі і іншыя матар'ялы.

Warszawa. Drukarnia Synodalna. Paryska 27.